Канстанцінопалю.

- Калі глядзець з сённяшняга часу, у чым знакавасць гэтай падзеі? Яе роля ў гісторыі?

- Думаю, канечне, для Украінскай Праваслаўнай Царквы гэта каласальная падзея. Для Палесся, можа, не зусім такая падзея, але на мой погляд, калі гістарычная падзея мае знакавасць для іншага народа, то і для той мясцовасці яно знакавае. Трэба памятаць і ўшаноўваць.

Архіерэйскі Сабор Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы 1938 год Мітрапаліт Аляксандр сядзіць першы злева

- Якой была рэакцыя тых жыхароў? Як яны ўспрынялі таго ж Іназемцава?

- Я сустракаўся з некалькімі людзьмі, мала канечне, але меў размову з тымі, хто памятаў мітрапаліта Аляксандра (на Пінскім Саборы архіепіскап Аляксандр Іназемцаў пераведзены ў сан мітрапаліта). Дык, адкрыта кажучы, мяне здзівіла: яны яго абагаўлялі. Гэта, на мой погляд, указывае на тое, што тады на гатую падзею (Пінскі Сабор) людзі не глядзелі адмоўна. Калі б яны на гэта так глядзелі негатыўна, то, пэўна, наўрад ці захавалася такая светлая памяць.

На Украіне 7-10 лютага ўшаноўвалі памяць аб пінскіх падзеях 1942 году. Для сучаснай Берасцейшчыны гэта адна са старонак гісторыі, якая патрабуе дэталёвага вывучэння, як адзначыў у размове Аляксандр Ільін.

new.racyja.com/news/pinski-sabor-pamizh-kanstantsinopalem-i-maskvoi-fota

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад: 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 2 (люты), 2012

# Мяжа



## ЗЬМЕСТ







аблвыканкам мне зараз даслалі гэты дазвол на юрыдычны адрас», — распавяла Людміла Дзенісенка.

Дзенісенка кажа, што гэтая перамога ў барацьбе зь бюракратыяй — рэдкі выпадак: «Увогуле, юрыдычныя адрасы — гэта толькі ў нас у Беларусі такая зьява. А за апошнія два гады тут, у Берасьці, у прыватным доме ня быў зарэгістраваны ніводзін юрадрас ніводнай грамадзкай арганізацыі або партыі».

www.svaboda.org/content/article/24472133.html

## Пінскі Сабор: паміж Канстанцінопалем і Масквой

70 гадоў таму, 10 лютага 1942 года, у Пінску адбылася другая спроба аддзялення праваслаўнай царквы ад маскоўскага ўплыву на тэрыторыях, незанятых бальшавіцкімі войскамі. У сталіцы Палесся сабраўся Пінскі сабор праваслаўнага духавенства, на якім была адроджана Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Падрабязанасці пра Сабор распавёў гісторык, рэдактар квартальніка "Гістарычная Брама" Аляксандр Ільін у гутарцы са Змітром Кісялём:

- Чаму гэтая падзея адбылася ў Пінску? У горадзе, які толькі год таму быў далучаны да рэйхскамісарыята "Украіна"?

- Лічу, што тут было некалькі фактараў, галоўны з якіх заключаецца ў асобе архіепіскапа Палескага і Пінскага Аляксандра (Іназемцаў). Гэта была вельмі ўнікальная постаць. Рускі па нацыянальнасці, ён трымаўся ў украінскім асяродку. Гэта протаіерэі браты Жыцінскія, Павел Каліновіч, якія па архіўных звестках былі сябрамі Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў (АУН). Яны, пэўна, выхоўвалі яго ў праўкраінскім духу. Другі фактар, што ініцыятарам Аўтакефаліі Украінскай Праваслаўнай Царквы быў епіскап Луцкі Палікарп (Сікорскі). На той час жыў ён у Луцку і здавалася б, што зручней яму правесці Сабор у Луцку, але яму патрэбны быў архіепіскап Аляксандр для стварэння іерархіі. У Пінску на Саборы гэта і адбылося. Тры епіскапы былі высвячаны. Каб прыцягнуць да сябе Аляксандра Іназемцава, каб зацікавіць яго, мабыць, Палікарп вырашыў правесці Сабор у Пінску. На самім Соборы старшынстваваў Аляксандр.

Давайце не будзем забываць гісторыі. У 1791 годзе ў Пінску адбыўся іншы Сабор (Пінская Кангрэгацыя) фактычна з той жа мэтаю - утварэнне Аўтакіфальнай праваслаўнай царквы тады яшчэ ў Рэчы Паспалітай. Яна б мусіла залежыць не ад Масквы, а ад Канстанцінопаля. Такое ж пытанне стаяла і ў 1942 годзе, каб царква падпарадкоўвалася

лютага новым кіраўніком берасьцейскай абласной дзяржаўтаінспэкцыі прызначаны 38-гадовы палкоўнік міліцыі Андрэй Канстанцінавіч Сумар.

Гэта сын старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Канстанціна Андрэевіча Сумара.

Да нядаўняга часу Андрэй Сумар ачольваў Камянецкі РАУС, а цяпер будзе падначальвацца непасрэдна бацьку.

www.svaboda.org/content/article/24498095.html

## «Справядлівы сьвет» дабіўся юрыдычнага адрасу

Берасьцейская гарадзкая арганізацыя партыі левых «Справядлівы сьвет» атрымала дазвол гарвыканкаму на выдзяленьне юрыдычнага адрасу.

Кіраўніца гарадзкой арганізацыі «Справядлівага сьвету» Людміла Дзенісенка ўжо паўгода дабівалася, каб гарадзкую арганізацыю партыі зарэгістравалі.

«Мы з 20 чэрвеня ўсё пісалі скаргі, што нам не давалі юрыдычны адрас. І вось прыйшло рашэньне гарвыканкаму, што юрыдычны адрас дазволіць, адклікаць два свае ранейшыя рашэньні пра тое, што адрас не давалі. Засталіся цяпер толькі фармальнасьці ва ўпраўленьні юстыцыі», — кажа Людміла Дзенісенка.

Спадарыня Дзенісенка пераконвала чыноўнікаў, што яна мае права атрымаць юрыдычны адрас на сваёй кватэры. Аднак гарвыканкам двойчы забараняў гэта рабіць:

«На першую маю заяву аб разьмяшчэньні юрадрасу ў маёй кватэры з гарвыканкаму адказалі, што не дазваляюць, бо мне трэба перавесьці частку майго дома ў нежылы фонд. Тады яны спасласіся на ўказ прэзыдэнта, які кажа, што гэта робіцца для паляпшэньня ўмоваў, каб займацца прадпрымальніцкай дзейнасьцю. Я напісала другі зварот, у якім пазначыла, што партыі паводле закону ня маюць права займацца камэрцыйнай дзейнасьцю, таму спасылка на той закон тут не павінна працаваць. Другі раз яны мне ўжо адказалі, што мне не дазваляюць мець у сябе юрыдычны адрас партыі, бо мой дом не адпавядае супрацьпажарным нормам. Потым я напісала скаргу ў аблвыканкам. І аблвыканкам мяне падтрымаў — яны накіравалі ў гарвыканкам маю скаргу і напісалі, што ў гарвыканкаме няправільна прымяняюць законы. Але гарвыканкам ізноў забараніў, і толькі пасьля другой маёй скаргі ў





## Сям'ю Бяляцкага выкінуць на вуліцу

Чаму ўлады не пайшлі на тое, каб выпусьціць Алеся Бяляцкага з-за кратаў? Якія наступствы будзе мець тое, што вырак яму пакінулі бязь зьменаў?

Сябра праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч цяпер у Брусэлі, ён удзельнічае ў сустрэчах праваабаронцаў з эўрапарлямэнтарамі. Перад сустрэчай з эўракамісарам Штэфанам Фюле ён заявіў у інтэрвію «Свабодзе»:

«Дзякуючы кампаніі, праведзенай грамадзянамі

Беларусі, ініцыяванай шэрагам няўрадавых арганізацый, была сплачана так званая шкода злачынства. І тое, што гэта не было ўлічана, яшчэ раз яскрава падкрэсьлівае палітычную матываванасьць гэтай справы. Я ўпэўнены, што пры іншых абставінах, калі б гэта быў не Бяляцкі, а нейкая іншая асоба, суд гэта ўлічыў бы. Што тычыцца прысуду ў частцы канфіскацыі, дык тут прысуд проста супярэчыць беларускаму заканадаўству. І тое, што гарсуд пакінуў гэта бязь зьменаў, сьведчыць пра тое, што было проста прынятае незаконнае рашэньне. Бо канфіскоўваць усю маёмасьць уключна з кватэрай, у якой пражывае сям'я, — гэта супярэчыць дзейнаму заканадаўству. Нельга канфіскоўваць кватэру, у якой пражывае сям'я. Цяпер атрымліваецца, што сям'я Бяляцкага будзе выкінутая на вуліцу згодна з гэтым рашэньнем».

Паводле Стэфановіча, беларускія дыпляматы казалі некаторым эўрапарлямэнтарам, што лёс Бяляцкага і вынік суду наўпрост залежаць ад рашэньня па санкцыях, якое будзе прынятае эўрапейцамі.

«У зьвязку з гэтым я мяркую, што прызначэньне даты касацыйнага абскарджаньня было загадзя сплянавана беларускімі ўладамі, каб даць магчымасьць яшчэ раз патаргавацца з Эўразьвязам палітвязьнямі».

Кіраўнік аддзелу Ўсходняй Эўропы і Цэнтральнай Азіі Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Аляксандра Кулаева заявіла, што гэта чарговы сумны дзень у сэрыі, якая пачалася больш за год таму. Міжнародная фэдэрацыя правоў чалавека вельмі жорстка асудзіла сёньняшняе пацьвярджэньне прысуду Бяляцкаму. Кулаева таксама знаходзіцца ў Брусэлі, дзе прайшлі сустрэчы з прадстаўнікамі Эўрапарлямэнту і іншых эўрапейскіх інстытутаў:

«Зусім відавочная палітычная замова гэтага

працэсу. Ад самага пачатку мы ведаем, што задача пасадзіць Алея Бяляцкага і, магчыма, нават некаторых зь яго калегаў была пастаўлена „органамі“ ўжо напрыканцы 2010 году, яшчэ да 19 сьнежня. Гэта было

пераканаўча прадэманстравана дакумэнтамі, прадстаўленымі на судовым працэсе яшчэ ў лістападзе. Такім чынам, палітычная замова гэтай судовай расправы над праваабаронцам і яго праваабарончай дзейнасьцю не ўяўляе для нас ніякага сакрэту. Таму сёньня эўракамісар Штэфан Фюле прыме дэлегацыю „Вясны“ і нашу, і мы будзем падымаць гэтае пытаньне на самым высокім узроўні».

Камэнтуючы сёньняшні прысуд па справе Бяляцкага, экс-кандыдат у прэзыдэнты Ўладзімер Някляеў адзначыў, што ў прадстаўнікоў дзейнага рэжыму ў Беларусі яшчэ не прайшла, як кажуць палякі, «хэнць» даводзіць сьвету і самім сабе, што яны тут гаспадары і вольныя рабіць з законамі і людзьмі што заўгодна, незалежна ад таго, што казалі перад гэтым:

«Перад гэтым казалася, што няхай заплаціць грошы — і, як усе гэтыя эканамічныя, выйдзе на волю. Гэта супярэчыць лёгіцы, прагматызму. Гэта супярэчыць будучыні і разьвіцьцю, гістарычнаму шляху Беларусі да Эўропы, усяму здароваму сэнсу. Не супярэчыць толькі сутнасьці гэтага рэжыму. Але гэта адна з апошніх дэманстрацый сілы, бо ў тых варунках, у якіх апынулася Беларусь, у якіх Лукашэнка павінен кідацца ў самалёт і ляцець катацца на лыжах з прэзыдэнтам Расеі, каб высьветліць, ці будзе яму дазволена заключаць з Кітаем кантракт на тое, на што ён зьбіраецца заключыць, — у гэтых варунках давядзецца выпускаць палітвязьняў, давядзецца думаць ня толькі пра лёс народа і краіны, да якіх, падобна, Лукашэнка абыякавы, але і пра свой».

www.svaboda.org/content/article/24461826.html

## Славацкі ўрад вылучыў Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію

Прэм’ер-міністар Славаччыны Івэта Радзічава намінавала беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру 2012 году.

У лісьце, накіраваным у Нобэлеўскі камітэт, Радзічава адзначыла сумленнасьць і сьмеласьць Бяляцкага, які вярнуўся на радзіму, нягледзячы на тое, што ведаў аб тым, што яму будуць выстаўленыя абвінавачаньні, паведамляе газэта Wall Street Journal.

У студзені дэпутаты Польскага сэйму вылучылі Бяляцкага на прэмію міру. Намінацыйны ліст на вылучэньне беларускага праваабаронцы на Нобэлеўскую прэмію накіравалі ў Осла і пяцёра дэпутатаў Вярхоўнай Рады Ўкраіны.





жыллёвым пытаннем студэнтаў адсочваецца.

new.racyja.com/news/brestskiya-studenty-adstoivayuts-svae-pravy

## Дзяніс Турчаняк судзіцца з аблвыканкамам

Каардынатар руху «За Свабоду» па Берасьці Дзяніс Турчаняк падаў пазоў у суд супраць аблвыканкаму, які адмовіўся даць інфармацыю пра будаўніцтва ў гістарычнай частцы гораду. Разгляд справы адбудзецца 14 лютага а 16-й гадзіне ў Ленінскім судзе Берасьця.


svaboda.org (RFE/RL)

Дзяніс Турчаняк дамагаўся, каб улады прадставілі інфармацыю пра інвэстыцыйную дамову паміж аблвыканкамам і прыватнай фірмай «МФБ Девелопмент». Паводле гэтай дамовы, фірма рэалізуе ў гістарычным цэнтры праект «Адміністратыўна-гасьцінічны комплекс па вуліцы Савецкай у Берасьці».

Спадар Турчаняк асьцерагаецца, што падчас будаўніцтва гатэльнага комплексу будзе нанесеная шкода двум будынкам № 43 і 45 на вуліцы Савецкай, уключаным у дзяржаўны сьпіс гісторыка-культурнай спадчыны.

«Справа ў тым, што паводле дакумэнтацыі, гатэльны комплекс будзе ўключаць значна большую тэрыторыю, чым плошча гэтых двух будынкаў. Таму ўзьнікае падазрэньне, што або гэтыя будынкі аб’ядналюць у адзін, або будуць дадаваць паверхі. У зьвязку з гэтым, я і хацеў даведацца ў аблвыканкаме пра зьмест дамовы з гэтай фірмай. На якіх умовах „МФБ Девелопмент“ прадстаўлены дазвол на ажыцьцяўленьне тут гэтага праекту».

www.svaboda.org/content/article/24483218.html

## Сын берасьцейскага губэрнатара ачоліў абласную ДАІ

Загадам МУС Рэспублікі Беларусь па асабістым складзе № 53 ад 24

ўплывае, і па іх словах так і павінна быць. Што датычыць галоўнага пытання, чаму кепскія пахі распаўсюджваюцца па горадзе, аб гэтым у адказе з гарвыканкама ні слова. Мы будзем абскарджваць гэты адказ, бо нам па сутнасці не адказалі на наша галоўнае пытанне, адкуль гэтыя кепскія пахі, і калі гэта ўсё скончыцца. Будзем адслежваць сітуацыю ў тых месцах, дзе быццам бы ўсё нармальна, хаця мы ведаем, што там сур'ёзныя праблемы. Пад гэтым супольным зваротам у гарвыканкам было сабрана больш двух тысяч подпісаў.

Як падкрэсліла Ганна Канюс, не выключана, што такі адказ будзе абскарджаны ў вышэйшых інстанцыях, паколькі па сутнасці адказ на галоўнае пытанне не быў атрыманы.

У рамках кампаніі "За чыстае паветра!" актывістамі грамадскай ініцыятывы было сабрана каля 1000 подпісаў, якія былі накіраваныя ў брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт.

Аліса Поль, Радыё Рацыя, Брэст.

new.racyja.com/news/brestskuyu-myastsovuyu-uladu-ne-tsikavits-zabrudzhvanne-pavetra

## Брэсцкія студэнты адстойваюць свае правы

Брэсцкія ўлады адказалі на зварот студэнтаў, у якім яны прасілі разабрацца з сітуацыяй па выплаце кампенсацыі за наймальнае жытло.

Чыноўнікі даручылі ва ўсім разабрацца рэктару Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна Мячэславу Часноўскаму.

Рэктар не прымусіў доўга чакаць і заявіў студэнтам, што год яшчэ прыйдзецца пачакаць, а ўжо ў 2013 годзе пытанне будзе само знятае, бо ў эксплуатацыю здадуць два інтэрнаты.

Старшыня Брэсцкай суполкі Моладзі БНФ Сяржук Кавалько адзначыў, што студэнты спадзяюцца на ажыццяўленне рэктарскіх заяваў:
- Абяцаецца, што ўжо ў гэтым годзе ў эксплуатацыю будзе зданы інтэрнат на Пушкінскай. Там 365 новых месцаў. Гэта прылічная колькасць. І з 2013 года запрацуе і інтэрнат на вуліцы Леніна, праўда, абяцаюць ужо чацвёрты год, што ён запрацуе, але ўсё ж такі спадзяванні ёсць. Таксама кіраўніцтва ўніверсітэта сказала, што згодная са студэнтамі, што працэдура атрымання кампенсацыі за наймальнае жытло не з'яўляецца дасканалай. І яны ўжо далі сваю пісьмовую прапанову аб змяненні гэтай працэдуры ў Міністэрства адукацыі.

Дапамогу студэнтам у абароне сваіх правоў аказала Брэсцкая суполка Моладзі БНФ і агенцтва рэгіянальнага развіцця "Дзедзіч". Сітуацыя з





Да агульнай кампаніі далучылася і Шырын Эбадзі — іранская адвакатка, якая атрымала Нобэлеўскую ўзнагароду ў 2003 годзе. Яна таксама даслала свой намінацыйны ліст у Осла.

Нобэлеўская прэмія міру прысуджаецца штогод 10 сьнежня — у гадавіну сьмерці Альфрэда Нобэля — палітычным лідэрам і актывістам. Ляўрэатамі гэтай прэміі ў розныя гады былі духоўны лідэр Далай-Лама, савецкі дысыдэнт Андрэй Сахараў, прэзыдэнт ЗША Барак Абама ды іншыя.

www.svaboda.org/content/article/24477938.html

## «Адносіны да людзей – як да жывёлаў»

Канфлікт на дзяржаўным прадпрыемстве «Граніт» у Мікашэвічах Лунінецкага раёну для нашага радыё камэнтуе кіраўнік тамтэйшай новастворанай суполкі Беларускага незалежнага прафсаюзу гарнякоў Сяргей.

Сытуацыя на «Граніце»: 75 чалавек адклікалі заявы аб выхадзе з ФПБ

РС: Чым не задавальняў людзей той прафсаюз, які ўжо быў на прадпрыемстве?

Сяргей: Тым, што нічым канкрэтна ні матэрыяльна не дапамагаў, ні юрыдычна не дапамагаў, ні ў пляне наладжваньня дыялёгу з кіраўніцтвам. Калі адміністрацыя прымала нейкія рашэньні, прафсаюз існаваў проста для галачкі. Ніхто зь ім нічога не ўзгадняў. Грошы, якія мы ім пералічвалі, заўсёды былі закрытыя для нас, ніхто ня ведаў, куды яны расходуюцца. Калі чалавеку патрабавалася дарагое лячэньне, ніхто насустрач ня йшоў з гэтага прафсаюзу.

РС: Калі вы гаворыце пра адносіны, што найперш не задавальняла ў адносінах паміж наймальнікам і работнікамі?

Сяргей: Тут можна адной фразай ахарактарызаваць – быдляцкія адносіны. Адносіны не як да людзей, чалавекаў, а як да жывёлаў. Напрыклад, калі ўстае нейкае вострае пытаньне на тых жа пяціхвілінутках, слова нікому не даюць. Гаворыць толькі адзін брыгадзір, нібыта за ўсіх. Калі нехта спрабаваў замест брыгадзіра сказаць, яму адразу дырэктар затыкаў рот і садзіў на месца. Начальства заўсёды хадзіла з заткнутымі вушамі, ніхто нічога ня чуў.

РС: 75 работнікаў забралі заявы аб выхадзе – у сытуацыі ціску, колькі людзей вытрымаюць, застануцца ў вашай суполцы?

Сяргей: Дастаткова для таго, каб арганізацыя адбылася, бо гэта была толькі першая хваля, каб паказаць рабочым, што гэта ўсё справа, а ня

словы. Людзі працягваюць несьці заявы аб выхадзе. Будзем змагацца за свае правы.

РС: Чаму ананімнасьць? Вы ж пагадзіліся ўзначаліць суполку незалежнага прафсаюзу.

Сяргей: У нас гарадок маленькі і ўсё вельмі хутка можна павярнуць на адваротнае. Адміністрацыя ў кожным выпадку пастараецца павярнуць гэта на шкоду мне. Менавіта таму я не хачу, каб маё прозьвішча агучвалася.

www.svaboda.org/content/article/24446769.html

## ФПБ не задаволена асвятленнем падзеяў на “Граніце”

Кіраўніцтва Брэсцкага абласнога аб’яднання Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ) вырашыла адрэагаваць на публікацыі ў незалежным выданні “Брестский курьер”, датычныя падзей на прадпрыемстве “Граніт” у Мікашэвічах, дзе працоўныя заявілі пра выход з афіцыйнага прафсаюза і стварэнне незалежнай суполкі.

У сваім лісце старшыня абласнога аб’яднання ФПБ Мікалай Басалай заўважае, што аўтар публікацый Алег Супрунюк робіць “дрэнную” рэч, калі не толькі распавядае пра намер працоўных “Граніта” стварыць незалежны прафсаюз, які б адстойваў іх інтарэсы, але і падае меркаванне наконт падзеяў у Мікашэвічах кіраўніка Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) Аляксандра Ярашука. Далейшы змест ліста мясцовага функцыянера ФПБ фактычна ўтрымлівае дыскусію з пунктам гледжання лідара незалежнага прафсаюзнага руху.

“У тым, што кіраўніцтва Брэсцкага абласнога аб’яднання ФПБ вырашыла ўрэшце выказацца наконт сітуацыі на “Граніце”, нічога дрэннага не бачу,

– кажа аўтар артыкулаў у газеце “Брестский курьер” Алег Супрунюк.

– Але здзіўляе той факт, што ФПБ лічыць дрэннай з’явай, калі ў друку змяшчаецца, акрамя афіцыйнай версіі падзеяў, яшчэ і меркаванне тых, хто прытрымліваецца іншых поглядаў”.

Варта таксама адзначыць, што ліст ад Мікалая Басалая трапіў у рэдакцыю “Брестского курьера” з электроннага адраса ўпраўлення ідэалагічнай працы Брэсцкага аблвыканкама. Акрамя таго, гэты тэкст быў распаўсюджаны сярод іншых выданняў Брэстчыны.

spring96.org/be/news/49629





## Брэсцкія дэпутаты не робяць справаздачы перад сваімі выбаршчыкамі

Актывісты дэмакратычных арганізацый Брэста вырашылі правесці маніторынг і высветліць, якім чынам жыхары рэгіёна інфармаваны пра дзейнасць у мінулым годзе мясцовага гарадского Савета дэпутатаў.

Высветлілася, што ў газету “Вечерний Брест”, адным з заснавальнікаў якой з’яўляецца гарсавет, за мінулы год ніводны з дэпутатаў не прадставіў матэрыялаў пра сваю дзейнасць у выбарачай акрузе. Больш таго, за ўвесь мінулы год гэтае выданне у сваіх публікацыях узгадвала толькі трох асобаў у сувязі з выкананнямі імі дэпутацкіх абавязкаў.

Увогуле у “Вечернем Бресте” з’яўлялася інфармацыя пра 15 чалавек, якія застаюцца дзейнымі дэпутатамі гарадскога савета, аднак у гэтых публікацыях яны прадстаўлены як службовыя асобы, а не “народныя абраннікі”.

Паколькі ў Брэсцкі гарсавет абраны 40 дэпутатаў, атрымліваецца, што большасць з іх ніяк не прыцягвала ўвагу да сваёй выбарчай дзейнасці з боку выдання, якое мае абавязак асвятляць працу дэпутацкага корпуса горада.

Між тым, у адпаведнасці з артыкулам 21 Закона РБ “Аб статусе дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў”, яны абавязаны “не радзей як два разы на год рабіць справаздачу “аб сваёй дзейнасці і ходзе выканання передвыбарнай праграмы, аб працы Савета і яго органаў, у склад якіх ён выбраны альбо ўваходзіць згодна з пасадай”.

spring96.org/be/news/49982

## Брэсцкую мясцовую ўладу не цікавіць забруджванне паветра

Мясцовая ўлада адказала на зварот па забруджванню паветра ў Брэсце. Замест таго, каб патлумачыць сутнасць пытання, чыноўнікі звярнулі ўвагу толькі на вырашэнне дадатковых праблемаў, што ўзніклі ў працэсе збору подпісаў сярод насельніцтва.

“Галоўнае пытанне засталося без адказу”, - патлумачыла актывістка кампаніі “Гавары праўду!” Ганна Канюс:

- Гарадскі выканаўчы камітэт інфармуе, што было праведзена камісійнаеабследаванне пажарнага вадаёма на Кавалёўцы, што там усё выдатна, ніякіх адхіленняў ад санітарных нормаў не выяўлена. Ліўневая каналізацыя зліваецца непасрэдна ў возера, але гэта ні на што не

мінулым месяцам.

У выніку, на такіх прадпрыемствах, як Брэсцкі машынабудаўнічы завод і сумеснае прадпрыемства “Белкельме”, што знаходзіцца ў Белаазёрску, адчуваецца напружанасць у дачыненнях рабочых з адміністрацыяй. А працоўныя Баранавіцкага станкабудаўнічага завода “Атлант”, незадаволеныя нізкім заробкам (ён складае 1,2-1,3 мільёна рублёў), ужо звярнуліся ў СПБ па дапамогу, бо не бачаць сэнсу звяртацца ў гэтым пытанні да кіраўніцтва прадпрыемства.

Валянцін Лазарэнкаў заўважае, што, паводле афіцыйных дадзеных, жыхары Брэсцкай вобласці зарабляюць менш за ўсіх у Беларусі, а кошты на некаторыя тавары і паслугі вышэй, чым у сярэднім па краіне. Гэта таксама ўплывае на незадаволенасць людзей цяперашняй эканамічнай сітуацыяй. Прафсаюзны актывіст мяркуе, што варта чакаць рост хваляванняў, пакуль заробак не будзе забяспечваць годны ўзровень жыцця.

“У той жа час выступаць адкрыта людзі асцерагаюцца, бо баюцца рэпрэсіяў з боку кіраўніцтва прадпрыемстваў”, - дадае Лазарэнкаў.

spring96.org/be/news/50015

## На Брэстчыне кожны другі зніклы без вестак - гастарбайтэр

Такія несуцяшальныя лічбы прывяла старшыня грамадскага аб’яднання “Клуб дзелавых жанчын” Ларыса Істомава, падсумоўваючы вынікі працы “гарачай” тэлефоннай лініі, што працуе на базе згаданай арганізацыі пры падтрымцы Міжнароднай арганізацыі па міграцыі. Гэтую статыстыку падцвярджаюць і афіцыйныя дадзеныя: паводле звестак упраўлення унутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама, на 1 лютага 2012-га года прапаўшымі без вестак у рэгіёне лічацца 240 чалавек, з іх зніклых падчас выезду на заробкі - 122 чалавека.

Але, як заўважае Ларыса Істомава, колькасць людзей, што цікавяцца працаўладкаваннем за межамі Беларусі, працягвае павялічвацца. Паводле яе слоў, калі ў 2010-м годзе з нагоды працаўладкавання за мяжой на гарачую лінію звярнуліся 776 чалавек, то ў мінулым - амаль у два разы больш (1590).

Усяго за час існавання “гарачай” лініі “Клуба дзелавых жанчын”, якая дзейнічае з 2003-га года, на адмысловы тэлефонны нумар паступіла 17,3 тысячы зваротаў.

spring96.org/be/news/49804





## За распаўсюд інфармацыі ў СМІ пра намер распачаць страйк брэсцкім рэалізатарам “Суперлато” пагражаюць звальненнем

Канфліктная сітуацыя паміж кіраўніцтвам Нацыянальных спартыўных латарэй, якія ёсць арганізатарамі “Суперлато”, і тымі, хто ў Брэсце распаўюджвае квіткі гэтай латарэі, распачалася пасля звестак, што рэалізатары не атрымаюць надбаўку, што была прадугледжаная за працу ў зімовы час.

У выніку некаторыя гандляры квіткамі “Суперлато” не атрымаюць за першы зімовы месяц дадатковы заробак памерам ад 800 тысячаў да 1 мільёна рублёў. Пра незадавальненне брэсцкіх рэалізатараў такім становішчам стала вядома мясцовым журналістам, якія таксама даведаліся, што распаўсюднікі латарэйных квіткоў збіраліся 31 студзеня ладзіць аднадзённы страйк, каб прыцягнуць увагу да гэтай праблемы.

Адразу пасля таго, як гэты намер быў агучаны ў СМІ, кіраўнік Брэсцкага філіяла Нацыянальных спартыўных латарэй Ала Лукіна абвергла звесткі пра плануемы страйк, бо ніякіх пісьмовых заяў алд гандляроў не атрымлівала. Адначасова стала вядома, што Лукіна пачала выклікаць рэалізатараў на размову і папярэджвала, што за “дыскрэдытацыю арганізацыі” яны могуць быць неўзабаве звольненыя, бо не з’яўляюцца штатнымі супрацоўнікамі і дзейнічаюць паводле грамадзянска-прававых дамоў.

Зараз брэсцкія рэалізатары “Суперлато” чакаюць адказу на свой зварот ад мінскага кіраўніцтва Нацыянальных спартыўных латарэй.

spring96.org/be/news/49765

## За пару пытаньняў чыноўнік прыгразіў журналісту судом

Генэральны дырэктар Берасьцейскай гарадзкой ЖКГ Уладзімер Аўтка прыгразіў судом карэспандэнту «Брестской газеты» Станіславу Коршунаву за тое, што журналіст бяз згоды чыноўніка задаваў яму пытаньні.

Станіслаў Коршунаў доўгі час ня мог дазваніцца чыноўніку, таму вырашыў схадзіць да яго ў кабінэт. Журналіст хацеў задаць яму некалькі пытаньняў наконт таго, наколькі падаражэе ацяпленьне па выніках студзеня. Карэспандэнта такая інфармацыя цікавіла ў сувязі з заявай

менскіх камунальнікаў, што ацяпленьне падаражэе на 45–50 тысяч рублёў.

На такое пытаньне Ўладзімер Аўтка адказаў журналісту, што гэтыя лічбы пакуль не пралічваліся. Але калі Станіслаў Коршунаў пачаў задаваць чыноўніку іншыя пытаньні, той сказаў, што згоды на інтэрвію не даваў, і прыгразіў судом, калі той надрукуе гэтую размову.

Станіслава Коршунава такая пастаноўка пытаньня зьдзівіла:

«Наколькі я ведаю, для таго каб узяць інтэрвію, ня трэба дабівацца дазволу чыноўнікаў. Чыноўнікі павінны зразумець, што не народ у іх у прыслузе ходзіць, а тое, што чыноўнікі на самой справе — гэта слугі народу. Таму, можа, чыноўнік крыху заблытаўся. Тым болей, я не інтэрвію ў яго хацеў браць, я хацеў задаць яму літаральна два пытаньні. Можа, хіба ня ў тым настроі быў чыноўнік, таму так рэзка адрэагаваў.

Нягледзячы на пагрозу, мы вырашылі друкаваць гэта, бо калі не адрэагуеш аднаму, то потым хутка навіна распаўсюдзіцца, што можна журналісту прыгразіць судом, і тады ён будзе маўчаць і нічога пісаць ня будзе», — распавёў Станіслаў Коршунаў.

www.svaboda.org/content/article/24480061.html

## У Брэсцкім раёне ўлады забаранілі ўсе пікеты супраць збяднення насельніцтва

Ладзіць тры падобныя акцыі ў вёсках Страдзеч, Знаменка і гарадскім пасёлку Дамачава збіраліся мясцовыя актывісты Беларускай партыі левых “Справядлівы свет”, аднак пад рознымі падставамі ўлады не далі дазвол на правядзенне пікетаў.

Як паведаміў старшыня Брэсцкай раённай арганізацыі партыі Анатоль Новік, у вёсцы Страдзеч пікет быў забаронены таму, што арганізатары не падпісалі дамову з органамі ўнутраных справаў, установай аховы здароўя і камунальным прадпрыемствам. Прычынай адмовы ў вёсцы Знаменка сталася тое, што заяўнік пікету не ўказаў дату свайго нараджэння, у пасёлку Дамачава нібыта быў парушаны ўстаноўлены тэрмін для падачы заявы аб правядзенні масавага мерапрыемства.

Анатоль Новік сцвярджае, што ніякіх тэрмінаў заяўнік не парушалі і накіравалі заяўку за 15 дзён да планаванай акцыі, як таго патрабуе заканадаўства. Што тычыцца дамоваў з пазначанымі установамі ўнутраных справаў, аховы здароўя і камунальнымі службамі, дык гэта рабіць у сённяшніх умовах нерэальна, бо дамовы заключаюцца ў тым





выпадку, калі акцыя дазволена ўладамі.

На думку партыйнага актывіста, рэальная прычына забароны пікетаў у тым, што чыноўнікі баяцца такіх акцый, бо разумеюць: незадаволенасць людзей сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у краіне расце з кожным днём. “Таму ўлада імкнецца не дапусціць публічнага выказвання пратэсту”, - лічыць Анатоль Новік. Тым не менш, актывісты партыі “Справядлівы свет” маюць намер працягваць настойваць на правядзенне такіх акцый і ў сакавіку збіраюцца падаць не менш за 15 заявак на падобныя пікеты супраць збяднення насельніцтва ў розных населеных пунктах Брэсцкага раёна.

spring96.org/be/news/50080

## Брэсцкая вобласць па ўзроўню заробку апынулася на апошнім месцы ў Беларусі

Як адзначыў старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкама Міхаіл Аксяневіч, асабліва нізкія заробкі застаюцца ў сельскай гаспадарцы, і нават гэтыя грошы (напрыклад, у некаторых гаспадарках Ганцавіцкага раёна працаўнікі атрымоўвалі каля 200 тысяч рублёў) выплочваліся несваечасова.

Чыноўнік таксама прызнаў, што калі мінулай восенню непрацуючым пенсіянерам была выдаткавана матэрыяльная дапамога ў памеры 500 тысяч рублёў на закуп гародніны, высветлілася, што існуючая базы дадзеных тых, хто можа разлічваць на такую дапамогу, страціла сваю актуальнасць, і гэта выклікала шматлікія канфліктныя сітуацыі.

Дарэчы, акрамя таго, што ў Брэсцкай вобласці самы нізкі ўзровень заробкаў, тут назіраецца і самы высокі працэнт малазабяспечанага насельніцтва. У той жа час колькасць заяваў на атрыманне адраснай дапамогі скарацілася. Чыноўнікі гадаюць: ці то ў многіх людзей ёсць схаваныя даходы, або яны проста не вераць у тое, што дзяржаўныя ўстановы акажуць падтрымку.

spring96.org/be/news/49869

## На прадпрыемствах Брэсцкай вобласці расце незадаволенасць узроўнем заробкаў

Паводле звестак старшыні Брэсцкай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) Валянціна Лазарэнкава, на многіх прадпрыемствах у лютым 2012-га года назіраецца істотнае змяншэнне заработнай платы ў параўнанні з